# АБРАЗЫ З ТЫДНЯ



**Два Рыцарскія Крыжы на дажынках для нямецкіх сялян.**

У часе сьвята дажынкаў Райхсмаршал Вяліканямецкага Райху ўзнагародзіў прадстаўнікоў нямецкага сялянства асаблівай адзнакай Фюрэра.



Пасьля бою добра выкупацца. А купальню вельмі лёгка зрабіць. Проста і здорава!



**У БАРАЦЬБЕ ЗА СТАЛІНГРАД.**

Пасьля пасьпяховага прарыву ў адным з кварталаў Сталінграду танкісты й пяхота спыніліся на заслужаны кароткі адпачынак.



У часе прамовы Фюрэра ў Спартовым Палацы прысутнічалі, як ганаровыя госьці, раненыя.



**НА ВУЛІЦАХ СТАЛІНГРАДУ.**

Мінаючы разбураныя й спаленыя вуліцы, нямецкія жаўнеры прасоўваюцца ўсьцяж на ўсход да берагу Волгі.



**Капітан Марсэль.**





**ПАДАРУНАК ГАУЛЯЙТЭРА ДЛЯ БЭРЛІНУ**

У той дзень, калі Фюрэр у сваёй вялікай прамове адзначыў асягненьні нямецкае адміністрацыі ў гаспадарчай адбудове Украіны, у сталіцу Райху прыбыў таварны цягнік з прадуктамі, як падарунак Райхскамісара гаўляйтэра Коха. Цягнік, упрыгожаны сьцягамі, меў 49 вагонаў з 615 скрынямі масла, 2000 жывых курэй, 230 тысяч яек, а крамя таго картофлю, мэлёны, фрукты і гародніну. Др. Гэбэльс, прыймаўшы падарунак, загадаў перадаць гэтыя прадукты бэрлінскім ваенным гошпіталям, крамам і кухням заводаў.



Над Сталінградам вісьне дым. Гэты горад, які цягнецца 20 км. над Волгай, ахоплены пажарам.